беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая таксама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

выходзіць у панядзелкі

№ 20 (58)
12 жніўня 1996 г.
панядзелак

КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА

ТЭЛЕПРАГРАМА

БІРЖА ПРАЦЫ

## Непатрэбны рэфэрэндум

Мечыслаў Грыб



8 жніўня сталі вядомыя пытаньні новага рэфэрэндуму, якія А.Лукашэнка прапануе Вярхоўнаму Савету зацьвердзіць на бліжэйшай сэсіі. Прэзыдэнт хоча, каб беларускія грамадзяне сёлета 7 лістапада вызначыліся: ці прымаюць яны зьмены ў Канстытуцыі, прапанаваныя прэзыдэнтам. Ухвала другога пытаньня, сэнс якога ўжо агучаны аўтарам у СМІ, будзе азначаць зьмену Канстытуцыі краіны. У зьвязку з гэтым карэспандэнт «НН» Севярын Квяткоўскі зьвярнуўся па камэнтар да экс-сьпікера беларускага парлямэнту Мечыслава Грыба, подпісам якога зацьверджана першая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусі.

Гутарка на старонцы 2.

## Джахар і Шаміль

«... Я старшыня ўсёй чачэнскай дыяспары ў Расеі, гэта каля 500 тыс. чалавек. Я ведаю, што Расея не вое за цэласнасьць сваёй тэрыторыі. Яна проста хоча вынішчыць нас. Усіх чачэнцаў. Яны арыштоўваюць нас безь ніякіх падставаў, б'юць і нават забіваюць.

**— Толькі за тое, што вы чачэнцы?**

— Так, бо людзей дыскрымінуюць паводле крытэрыяў нацыянальнасьці. Я пасылаў лісты ў ОБСЕ, у ААН, у Раду Эўропы — і нічога, усе маўчаць. Усе найвялікшыя дзяржавы аплочваюць гэтую вайну.

**— Навошта Захаду аплочваць вайну ў Чачэніі?**

— Бо гутарка ідзе пра чарговы падзел сфэраў уплыву. Мы, Захад, забіраем сабе Югаславію, а вы, Расея, можаце сабе вырашаць свае справы на Каўказе так, як палічыце патрэбным. У Грузіі і Абхазіі, у Арменіі, у Карабаху, нас гэта не цікавіць. Гэта зона вашых інтарэсаў.

Пакуль Расея будзе дзейнічаць так, як гэта выгадна для краінаў Вялікай Сямёркі, то што б яна ні рабіла, ніхто не запратэстуе...»

Гутарка на старонцы 4.

# Жніво - 96



## Калгасная плянёрка

П'еса ў адным акце

*У пэўнай славянскай краіне, каб захаваць калгасы, паста навілі іх узбуйніць. Зь некалькіх рабілі адзін, але вельмі вялікі па плошчы. У калгасе адбываецца плянёрка, прысьвечаная штогадовай бітве за ўраджай. Размова трансьлюецца праз кабэльнае тэлебачаньне ў навакольных вёсках. У старшыні сабраныя галоўныя спэцыялісты са справаздачамі, гутарка з брыгадзірамі ўчасткаў адбываецца праз сэлектарную сувязь. Даяркі, сьвінаркі, пастухі і мэханізатары сабраныя з гэтай нагоды ў чырвоных кутках на фэрмах і ў мэхмайстэрнях. Рабочая мова сэлектарнай плянёркі — дзяржаўны «новаяз».*

– Дакладваю: на жніве-95 у нас было 65 ахвяр, але хлеб убралі воўрэмя і без пацер.

– А ў гэтым годзе ўбяром, таварыш Скакун?

– Так точна, таварыш прэдсядацель.

– Усіх на ўборку. Запомніце. Школьнікаў, ваенных, служачых і эту самую – інцелігенцыю. А то міня ні за што далбаюць у газэтах, што завальваю дзела. І ўпасі вас господзь, гаспадзін Бойка, штобы з саляркай усё было о'кэй, а то самі паедзіце на камбайне ў самую заваленую брыгаду ўбіраць ураджай. Эта ў лучшым случаі.

– Так ня плоцяць жа грошы за паліва, Васіль Іваныч.

– Плаціць нада, на дурняк ніхто ня будзе даваць. Лічна далажыце. А сам прэдсядацель выйдзе да людзей і будзе прасіць напрачся. Задалжалі мы ім з зарплатай, 400 мільярдаў.

Так, а што там у нас у брыгадзе Козела? Я пралятаў у суботу над яго дзярэўняй. Ні аднаго камбайна не ўвідізеў у полі. Што ў цібя ў тваёй епархіі робіцца Козел, а?

– Дакладваю: няма на сёньняшні дзень раўнадушных ні ў дзярэўні, ні ў канторы.

– Прасьці міня, ня ўры.

– Створаны сьпецыяльны штаб. Усё пастаўлена на стрэмя – хлеб усяму галава! Навука гаварыць аб том, што ўраджай будзе каля...

– Ты перапісаў чужое выступленьне і чытаеш. Мне эта не інцірэсна. Скажы лучшэ канкрэтна і чэсна: сколькі ўбралі?

– Адзін працэнт. Але ўсе на стрэмені...

– Давай ціпер ты, Басалай. Але толькі без сьцянаній і заклінаній.

– Бальшыня камбайнаў атработала сваё. Мы паддзержываем вашы мысьлі, Васіль Іваныч, ліквідзіраваць абразаваўшыйся мінус па надоях. Яшчэ адна пазіцыя, каторая стучыцца ў дзьверы. Праблема сьцеклатары.

– А с ураджайнасьцю што?

– Па тры разы ў дзень дождж.

Працяг на старонцы 16.

## Мастацтва ненароджаных

Старая рубрыка «Нашай Нівы», у якой мы друкуем творы, якія "яшчэ не нарадзіліся" як літаратура, і аўтараў, якія яшчэ ня сталі ўласна аўтарамі. Рэдакцыя атрымлівае шмат літаратурных практыкаваньняў, але ня ў кожным зь іх ёсьць зерне таленту. Тыя творы, аўтарам якіх, на нашу думку, варта працягваць пісаць, мы і публікуем у рубрыцы «Мастацтва ненароджаных».

Старонкі 14-15.

## «Молатаў – Рыбэнтроп»

Архіў

23 жніўня 1939 году была заключана Дамова аб ненападзе паміж Нямеччынай і Савецкім Саюзам. Аднак да цяперашняга часу ў Беларусі не публікаваліся сакрэтныя дадатковыя пратаколы да гэтай дамовы. Больш таго, іх існаваньне адмаўлялася. Толькі на мяжы 80-х і 90-х гадоў першыя публікацыі гэтых дакумэнтаў зьявіліся ў савецкім друку, зь ліку народных дэпутатаў СССР была створана Камісія па палітычнай і прававой ацэнцы савецка-нямецкай дамовы аб ненападзе. Камісія прызнала існаваньне сакрэтных пратаколаў і назвала іх «сговором»...



Яхім фон Рыбэнтроп

Самым непасрэдным чынам сакрэтныя пратаколы датычаць і гісторыі Беларусі. Гэта яны сталі юрыдычнай падставай далучэньня Заходняй Беларусі да БССР. Па-рознаму пасьля называлі падзею 17 верасьня 1939 году: хто — узьяднаньнем беларускай нацыі, а хто — "вызваленьнем ад хлеба". Канчатковага і адназначнага тлумачэньня не існуе дагэтуль...

Як бы там ні было, сёньня ў «Нашай Ніве» мы ажыцьцяўляем першую беларускую публікацыю сакрэтных дадатковых пратаколаў. Дакумэнты і камэнтар гісторыка

– на старонцы 3.

## навіны м сказам

**СУД.** Суд над сямю грамадзянамі Ўкраіны ў справе красавіцкіх падзеяў у Менску адбудзецца 21 жніўня ў будынку Менскага гарадзкога суда, бо заля суда Цэнтральнага раёну горада разьлічана ўсяго на пяць чалавек.

**АБЯЦАНЬНЕ.** А.Лукашэнка паабяцаў не павялічваць аплаты за камунальныя паслугі для насельніцтва, хоць ня выключыў магчымасьці падвышэньня тарыфаў на 50%, калі будзе забясьпечаны нармальны ўзровень жыцьця людзей.

**БАНКІ І КРЭДЫТОРЫ.** Нацыянальны банк вызначыў парадак прыняцьця прэтэнзіяў да банкаў, якія ліквідуюцца: 10 верасьня прэтэнзіі будуць прымаць банкі «Інтэкс», «Садружнасьць», «Беларускі крэдыт», да 25 верасьня – «Магнатбанк», да 2 кастрычніка –»Дукат».

**ІРАН.** У сувязі з падпісаньнем прэзыдэнтам ЗША Клінтанам закону, які прадугледжвае жорсткія санкцыі супраць Ірану ды Лівіі, што лічацца апірышчам міжнароднага тэрарызму, Беларусь страчвае свайго пэрспэктыўнага гандлёвага партнэра – Іран.

**ПАВІНШАВАЛІ.** Чачэнскія ваяры за незалежнасьць свае краіны адзначылі афіцыйнае абвяшчэньне Барыса Ельцына прэзыдэнтам Расеі пасьпяховым буйнамаштабным наступам на Грозны, што суправаджаўся цяжкімі стратамі для расейскіх войскаў.

**СУПАКОІЛІ.** Судовыя мэдыкі, што правялі ўскрыцьцё загінулых у катастрофе «Боінгу» амэрыканскай авіякампаніі TWA, сказалі, што ўсе ахвяры загінулі імгненна, ня зьведаўшы агоніі ды пакутаў.

**ПАВОДКА І.** Больш за 80 чалавек загінулі ў гішпанскім турыстычным лягеры Біэскас у выніку нечаканай паводкі, выкліканай моцным дажджом.

**AIDS.** Амэрыканскія мэдыкі зрабілі сэнсацыйнае адкрыцьцё дэфэктнага чалавечага гену, які зьяўляецца прычынай таго, што 1% людзей мае натуральны імунітэт да вірусу ВІЧ.

**ПАМЫЛІЛІСЯ.** ФБР давядзецца публічна прасіць прабачэньня ў Рычарда Джуэла – супрацоўніка службы аховы на алімпійскіх гульнях у Атлянце, які першы знайшоў бомбу й пачаў эвакуацыю людзей, у неабгрунтаваным падазрэньні яго прыналежнасьці да тэракту і праведзеных у яго доме трох вобыскаў.

**ОЛЬСТЭР.** Мірныя дэманстрацыі каталікоў-незалежнікаў ды прабрытанскіх пратэстантаў-англіканаў у паўночнаірляндзкім горадзе Ландандэры, што праходзілі без гвалтоўнага супрацьстаяньня ды беспарадкаў, пад раніцу ў нядзелю скончыліся пагромамі ды кіданьнем «кактэйля Молатава» ў паліцыю.

**ПАВОДКА ІІ.** У выніку тайфуну ў Паўднёва-ўсходнім Кітаі загінула 233 чалавекі і 234 зьніклі бязь вестак, давёўшы сьпіс ахвяраў паводак ды тайфунаў апошніх тыдняў да 2300.

**«ТЭХНА».** У Цюрыху болей за 350 тыс. аматараў музыкі «тэхна» ды зьвязанага зь ёю стылю жыцьця правялі свой традыцыйны фэстываль.

## Славамір Адамовіч як пэрсанаж Франца Кафкі



Абсурднасьць «справы Адамовіча» сёньня ўжо вартая пяра Кафкі. 7 жніўня сьледчы КГБ тав. Сакольчык адмовіў маці паэта ў сустрэчы з сынам. Калі кабета, якая прыехала аж з-пад Будслава, зьвярнулася па дапамогу да адваката, ён высьвятліў, што падставаю для адмовы стала тое, што сьледства ў КГБ ужо скончанае і па дазвол на сустрэчу трэба зьвяртацца ў Вярхоўны Суд. Там, у сваю чаргу, растлумачылі, што трэба зьвяртацца ў Віцебск, куды ўжо накіравана справа. У Вярхоўным Судзе прызналі што парушана працэдура, бо самога Адамовіча мусілі ўжо канваяваць туды ж.

Спробы зьвязацца зь Віцебскам таксама былі безвыніковыя. Віцебскі абласны суд мусіў даць дазвол на сустрэчу маці з сынам, які зьняволены ў сьледчым ізалятары КГБ ў Менску!.. Шкала гэтай ужо зусім зьняможанай горам жанчыны, якая ня можа зразумець, што адбываецца ў нашай краіне.

Сёньня нават адвакат Адамовіча ня ведае дакладнай даты судовага працэсу. Хутчэй за ўсё працэс перанясуць на верасень, калі выйдуць з адпачынку супрацоўнікі Віцебскага абласнога суда. «Адпачынак» Адамовіча да таго часу складзе шэсьць месяцаў.

Працэс...

С. Х.

# Сьвет старэе

Раней людзі былі здаровыя і дужыя, цяпер яны кволыя і маленькія, у ранейшыя часы жонкі заставаліся верныя мужам, а васалы — сваім сэньёрам... Так уяўлялася зьмена часоў паводле сярэднявечнай канцэпцыі Старэньня сьвету (Mundus senescit). Матывы гістарычнага пэсымізму ажываюць у сёньняшняй Беларусі, дзякуючы рэанімацыі савецкага антуражу.

Усталёўваецца бясконцая чарга сьвятаў, якія даюць нагоду для чарговага «Звароту» вышэйшае ўлады. Звычайна такія звароты пачынаюцца з формулы: «Не выпадкова ў народзе кажуць: на прафэсіі будаўніка (адзін з апошніх прыкладаў) зямля трымаецца» (Хто кажа? Калі?). Кабінэт міністраў прымае пастанову «Пра арганізацыю рэспубліканскага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 1996 г.» Шыюцца пераходныя чырвоныя сьцягі. У мову вяртаюцца савецкія канцылярызмы, усё больш нядчасным робіцца лёс слова «таварыш», канкрэтны зьмест якога (пазначэньне блізкасьці ў поглядах і дзейнасьці) зноў загружаецца ідэалягічным сьмецьцем.

Галоўны лёзунг, пад якім адбываюцца ўсе падобныя «новаўвядзеньні», гучыць так: «Раней было лепей!» Вонкава гэта выглядае як адраджэньне тых савецкіх традыцыяў, што маюць каштоўнасьць. І вось узьнікае праблема з каштоўнасьцямі — з гэтымі эмацыйна афарбаванымі ўяўленьнямі пра тое, што пажаданае, а што не, што слушнае, а што не. Але ў тым і рэч, што ня ўсе афіцыйныя каштоўнасьці прызнаюцца аднадушна.

Панаваньне афіцыйных каштоўнасьцяў усталёўвае своеасаблівае адчуваньне часу, што можна вызначыць як геалягічны гістарызм — калі вядомыя як пачатак, так і канец гісторыі, які вызначаецца ўсталяваньнем абвешчаных каштоўнасьцяў. А гэта значыць, што вядомы зьмест гісторыі, бо ён заключаецца ў рэалізацыі гэтых каштоўнасьцяў. Такое вымярэньне часу ўлічвае не падзеі, а ілюзію прыроднага, таму для яго неабавязковы і немагчымы дакладны адлік. Фактычна — гэта квазівясковы час, не прапушчаны праз культурныя коды новага ўрбанізму. Таму геалягічны гістарызм шукае хоць нейкія знаёмыя ідэалягічныя пэўнасьці ў мінуўшчыне, якой бы змрочнай яна ні была. Савецкія каштоўнасьці ў канкрэтнай беларускай сытуацыі — папросту знаёмыя.

І вось тут назіраецца радыкальная розьніца з ідэалёгіяй нацыяналізму, у якой рэалізацыя аўтэнтычнасьці дае свабоду й аўтаномію. Каштоўнасьці мінуўшчыны служаць для нацыяналіста мадэляй і апірышчам, часам — мераю недахопаў сучаснае эпохі. Але гэтыя каштоўнасьці не даюць плян на будучыню. Мінулае «падтрымліваецца», каб пабудаваць лепшую й больш стабільную будучыню. Нацыянальны праект, шануючы мінулае, скіроўваецца ў будучыню.

У аўтарытарных грамадзтвах якраз тое, што абвяшчаецца стрыжнёвымі каштоўнасьцямі, робіцца аб'ектам грамадзкае нязгоды. Ёсьць яшчэ адна стадыя разьвіцьця сюжэту, калі афіцыйныя стрыжнёвыя каштоўнасьці ўяўляюць толькі пазыцыю кіраўнічага рэжыму. Такая сытуацыя — ўжо падстава для сатыры.

Уяўленьне пра тое, што рэаліі й пэрсанажы мінуўшчыны належаць ня толькі мінуламу часу, але прысутнічаюць і ў сучасным жыцьці, мы знаходзім у паэзіі вагантаў — вандроўных песеньнікаў. Але што зрабілася зь велічнымі вобразамі й фігурамі? У адной з іранічна-сур'ёзных песень знакамітага вагантаўскага цыклю «Carmina Burana» ў скаргах на ўпадніцтва й псаваньне сьвету згадваюцца найвялікшыя аўтарытэты, якія апынуліся хто ў багадзельні, хто пад судом, а хто — на рыбным рынку. «Марыю больш не цікавіць сузіраньне жыцьця, а Марфу — дзейнае жыцьцё, Лія бясплодная, Катон зачасьціў у шынок, і Лукрэцы стаў прасталыткаю».

**Алег Дзярновіч**

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік
НАША НІВА

заснаваны ў 1906,
аднёулены ў 1991

| | |
|---|---|
| заснавальнік і выдавец | Павал Жук |
| рэдактар | Сяргей Дубавец |
| адказны сакратар | Алег Дзярновіч |
| мастацкі рэдактар | Сяргей Харэўскі |
| навіны | Уладзімер Бараніч |
| рэдактар дадатку "Інфарматар" | Андрэй Лапцёнак |
| макет | Віктар Корзун |
| дызайн і вёрстка | Лявон Раманчык |
| набор | Тацяна Чуйвід |
| стыль | Антон Кузьміч |
| карэктура | Сяргей Сматрычэнка |
| пры ўдзеле | Сяргея Шупы |
| прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі | Зьміцер Бартосік (тэл. 56-94-36) |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 239-78-49
Падпісны індэкс 63125

# Непатрэбны рэфэрэндум

**«НН»: Спадар Мечыслаў, як Вы ставіцеся да заявы ў прэсе аб тым, што дзейная Канстытуцыя Беларусі ня можа мець сілы, бо падпісаная ня ўсім народам, а адным чалавекам?**

М.Г.: Гэты тэндэнцыйны артыкул, які зьявіўся ў «Народнай газеце», мне нават няёмка камэнтаваць — ён відавочна заказны. Згодна зь беларускім заканадаўствам, Вярхоўны Савет ня мусіў выносіць на рэфэрэндум пытаньне аб зацьвярджэньні Канстытуцыі. Беларускі народ зрабіў свой выбар, калі абраў сваіх прадстаўнікоў у парлямэнт. Яны прынялі Канстытуцыю, і даручылі мне, як старшыні парлямэнту, яе падпісаць. Што я зрабіў з задавальненьнем.

**«НН»: 8 жніўня А.Лукашэнка перадаў у ВС свой праект пастановы аб правядзеньні чарговага рэфэрэндуму. Як Вы пракамэнтуеце прапанаваныя прэзыдэнтам пытаньні?**

М.Г.: Галоўнае сярод іх, на мой погляд, другое, аб зьменах у Канстытуцыі 1994 году. Само пытаньне зразумелае — «за» ці «супраць» зьменаў і дапаўненьняў у Канстытуцыі. Але ж самі варыянты зьменаў і дапаўненьняў, якія хоча ўвесьці прэзыдэнт, адсутнічаюць. Тым самым, на мой погляд, праводзіцца нейкая не зусім прыстойная гульня. Дасланы гэты праект 8 жніўня, згодна зь дзейным заканадаўствам, ад Вярхоўнага Савету будуць патрабаваць разгледзець яго не пазьней за месячны тэрмін. Я як юрыст тлумачу, што нельга з 8 жніўня адлічваць месячны тэрмін, бо няма адказу на пытаньне: у чым сэнс прапанаваных зьменаў? Калі такі адказ зьявіцца — ніхто ня ведае. Бо тое, што казаў прэзыдэнт у сродках масавай інфармацыі — гэта яшчэ не дакумэнт.

Што да астатніх пытаньняў, мне яны падаюцца, мягка кажучы, ня вельмі сур'ёзнымі, хоць і не супярэчаць нашаму заканадаўству. Напрыклад, першае. Навошта сумяшчаць два розныя сьвяты? Дзень вызваленьня Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, безумоўна, дарагі кожнаму беларусу, у мяне ў самога бацька загінуў на вайне. Дзень Незалежнасьці — гэта іншае сьвята: дзень прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце нашай краіны. Так робіцца ва ўсім сьвеце — незалежнасьць зьвязаная з дэклярацыяй. Аб'ядноўваць два сьвяты ня мае ніякага сэнсу. Калі гэтая зьмена будзе прынятая, любы чалавек зможа запытацца, маўляў, а што, да 1943 году у нас не йснавала БССР? А калі йснавала, ці ж была яна самастойнай у складзе СССР пасьля 1943 году? Я ўпэўнены, што нельга спалучаць адно з другім, і гатовы паспрачацца.

Далей, трэцяе пытаньне. Ну што яно азначае? «Ці вы за свабодныя куплю-продаж зямлі, без абмежаваньняў?» Хіба ж існуе хоць адна дзяржава з падобнымі правіламі? Закон аб прыватнай уласнасьці, прыняты Вярхоўным Саветам, рэгулюе адносіны гэтага кшталту. Навошта выносіць гэтае пытаньне на рэфэрэндум? Яно ж нічога ў сабе не нясе!

Што да сьмяротнага пакараньня, гэта дарадчае пытаньне. Я разумею, што ў будучыні мы прыйдзем да ягонай адмены. Але, ці можам мы сёньня на гэта пайсьці? Хіба ўзровень цяжкіх злачынстваў у нас памяншаецца?

**«НН»: Праект новага рэфэрэндуму яшчэ больш абвастрыў палітычную сытуацыю ў краіне. У зьвязку з гэтым, Ваш прагноз на восень: чым можа скончыцца супрацьстаяньне паміж парлямэнтам і прэзыдэнтам?**

М.Г.: Самая няўдзячная справа — рабіць нейкія прагнозы, асабліва, калі гэта ў той ці іншай ступені датычыць цябе. Хоць я сёньня не займаю аніякае кіраўнічае пасады, але ўвосені будзе вырашацца лёс Вярхоўнага Савету, разам зь лёсам усёй краіны. Увосені эканамічны крызыс дасягне свайго піку. І хоць А.Лукашэнка абяцаў, што пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі нашыя тавары пойдуць у Расею, а адтуль грошы пацякуць да нас ракой, мы бачым, што гэтага не адбываецца і з аб'ектыўных прычынаў адбыцца ня можа. Таму абвастрэньне сацыяльна-палітычнай абстаноўкі ў краіне абсалютна рэальнае.

**«НН»: Такім чынам, якімі Вы бачыце захады сацыял-дэмакратычнай партыі, да якой Вы належыце, у сытуацыі сацыяльнага выбуху? Ці маеце Вы на мэце ўзначаліць рабочы рух?**

М.Г.: Натуральна, мы падтрымаем справядлівыя патрабаваньні працоўных пра падвышэньне заробкаў, пра першачарговасьць выплаты заробкаў і іншыя. Але наша партыя, як і астатнія партыі ў Беларусі, яшчэ досыць малая. Аб сапраўдным уплыве нейкіх партыяў на нашае грамадзтва можна казаць адно ў пэрспэктыве на будучыню. Нашы людзі яшчэ ня маюць досьведу дэмакратычнага палітычнага жыцьця. І гэтую сытуацыю вельмі цяжка зьмяніць, калі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі манапалізаваныя адным чалавекам у краіне.

**«НН»: Эканамічны крызыс відавочны. Ці здатная сёньня наша дзяржава выканаць патрабаваньні сацыяльнае абароны?**

М.Г.: Мы разумеем, што у бюджэце элемэнтарна бракуе грошай. Але я перакананы, што існуе палітычнае выйсьце з гэтай сытуацыі. Усім прадстаўнікам беларускага палітычнага спэктру трэба сесьці за стол перамоваў. Пра тое, што шляхі выхаду існуюць, нам сьведчаць прыклады Польшчы, Чэхіі, Вугоршчыны, прыбалтыйскіх і іншых краінаў. Я мяркую, што рэзалюцыя 27 ліпеня, падпісаная прадстаўнікамі сямі ў некаторых выпадках супрацьлеглых паводле накірунку палітычных партыяў, выразна прадэманстравала падрыхтаванасьць нашых палітыкаў да дыялёгу.

Гэта вынікае з сытуацыі, якую стварыў сваёй палітыкай прэзыдэнт: у Беларусі не засталося месца цэнтрызму, ці лібэралізму. Да апазыцыі можна залічыць ці ня кожнага, чыё меркаваньне хаця б крыху разыходзіцца зь меркаваньнем прэзыдэнта. Існуе падзел — альбо ты за А.Лукашэнку, альбо —супраць. А.Лукашэнку ўвесь час нестае ўлады, яму ўвесь час хтосьці перашкаджае палепшыць становішча ў краіне. Ну навошта яму дадатковыя два гады прэзыдэнцтва? Калі ён за пяць гадоў ня справіцца з кіраваньнем краінай, два дадатковыя яму нічым не дапамогуць.

Ён хоча вынесьці на рэфэрэндум пытаньне пра двухпалатны парлямэнт, дзе верхняя палата будзе ўтварацца з прадстаўнікоў прэзыдэнцкай вэртыкалі, якая, у сваю чаргу, на свае пасады прызначаецца прэзыдэнтам. Гэта азначае парушэнне балянсу паміж заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладамі дзяржавы, што супярэчыць шостаму артыкулу Канстытуцыі РБ. Прэзыдэнт мае права выносіць свае пытаньні на рэфэрэндум, але ў выпадку, калі будуць прынятыя прапанаваныя ім зьмены ў Канстытуцыі, будзе парушаны дзяржаўны лад Беларусі. А.Лукашэнка хоча ператварыць Беларусь у абсалютысцкую краіну. У свой час ён заяўляў, што яму вельмі неабходна ўзяць як мага болей улады дзеля барацьбы з карупцыяй. Але абсалютная ўлада ў любой краіне вядзе адно да татальнай карупцыі. Узгадайце ягоныя словы, сказаныя пасьля мінулага рэфэрэндуму: прэзыдэнт прызнаўся тады, што атрымаў паўнамоцтвы большыя, чым у цара.

**«НН»: У Беларусі насьпела сытуацыя, у якой магчымая альбо абсалютная ўлада аднаго чалавека, альбо зьмена лідара. У зьвязку з гэтым, ці адчуваеце Вы сябе здольным узначаліць кіраваньне краінай? Вы адзіны зь нямногіх палітыкаў, якія маюць багаты досьвед дзяржаўнага кіраўніцтва.**

М.Г.: Пытаньне лідарства ў краіне залежыць найперш ад народу. Я цяпер не хачу называць канкрэтныя імёны верагодных прэтэндэнтаў, я мяркую, што час для гэтага пакуль што не прысьпеў. Але не выключаю, што кандыдаты ў прэзыдэнты 1994 году зноў зьявяцца ў гэтым сьпісе. Добра вядома, што на сёньняшні дзень А.Лукашэнку падтрымлівае 30 працэнтаў выбаршчыкаў. Калі ўсе яны прыйдуць на рэфэрэндум — прэзыдэнт пераможа, бо стопрацэнтавы ўдзел людзей у выбарах малаверагодны. А тады трэба чакаць трэцяга рэфэрэндуму — аб далучэньні да Расеі. Прычым, А.Лукашэнка здатны яго правесьці нават пры ўмове, што кіраўнічыя колы Расеі могуць не падтрымаць гэтую ініцыятыву.

**«НН»: У гэтай сытуацыі які Вам уяўляецца самы непрымальны варыянт разьвязкі супрацьстаяньня Аляксандра Лукашэнкі зь іншым сьветам?**

М.Г.: Мне вельмі не хацелася б, каб гэтае супрацьстаяньне было даведзенае да скрайнасьці і зьявіліся чалавечыя ахвяры.

**«НН»: Ці апраўданыя, на Вашу думку, заявы З.Пазьняка і С.Навумчыка наконт магчымай пагрозы іхнім жыцьцям?**

М.Г.: Што да Пазьняка і Навумчыка, магу прывесьці прыклад з маёй дзейнасьці ў камісіі па дасьледваньні незаконнага затрыманьня дэпутата Паўла Знаўца, якое адбылося ў штаб-кватэры БНФ 26 красавіка. Нам дагэтуль не назвалі асобаў, якія яго затрымалі, не назвалі іхнія мэты і паўнамоцтвы. Але дакладна вядома, што ў той дзень яны зьбіраліся затрымаць Зянона Пазьняка.

Калі ў краіне парушаюцца Канстытуцыя й іншае заканадаўства, у ёй магчыма ўсё, што заўгодна. Памятаеце, як абураўся А.Лукашэнка, калі Вярхоўны Савет прыняў закон аб крымінальнай адказнасьці за невыкананьне Канстытуцыі, законаў і вэрдыктаў Канстытуцыйнага Суда? Маўляў, як гэта можа быць, каб і прэм'ер-міністар РБ, і брыгадзір аднолькава выконвалі дзейнае заканадаўства: яно ж недасканалае! Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта знаходзіць самыя неверагодныя шляхі для ўціску «канкурэнтных» галінаў улады. Напрыклад, нядаўна Кантрольная Палата ВС атрымала ліст ад Івана Ціцянкова. У ім паведамляецца, што прэзыдэнт прыняў распараджэньне аб перадачы будынка Кантрольнай Палаты, які належыць Вярхоўнаму Савету, Кіраўніцтву справамі прэзыдэнта. Рэч у тым, што гэтае распараджэньне Вярхоўны Савет ня можа абскардзіць у Канстытуцыйным Судзе, бо гэта ня ўказ. Яго, гэтае распараджэньне, КС можа разгледзець толькі са сваёй ініцыятывы. А ці будзе ён гэта рабіць, пакуль нікому невядома. Такім чынам, Кантрольная Палата можа патрапіць у поўную залежнасьць ад Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта, якое КП ужо другі год спрабуе прарэвізаваць.

**«НН»: Апошнім часам можна падумаць, што КГБ у нашай краіне —гэта самастойная палітычная структура, якая вядзе сваю асабістую гульню...**

М.Г.: Я б нават сказаў, што КГБ апошнія гады вядзе рэй у палітычным жыцьці краіны.

**«НН»: Як Вы ацэньваеце заяву дэпутата расейскага парлямэнту Ілюхіна аб шпіёнскіх плянах ЦРУ ў Беларусі?**

М.Г.: Калі б Ілюхін меў нейкія дакумэнты і хацеў дапамагчы выкрыць нейкую змову, ён мусіў бы перадаць інфармацыю ў адпаведныя органы. Мне падаецца, што месца стварэньня гэтай заявы — Беларусь, дакладней — Менск. Адсюль усё йдзе.

**«НН»: Калі будзе прынятае рашэньне пра рэфэрэндум, ці станеце Вы ў ім удзельнічаць?**

М.Г.: Гэта залежыць ад таго, якія пытаньні зацьвердзіць Вярхоўны Савет. Але ў любым выпадку, я лічу, што гэты рэфэрэндум не патрэбны нашым людзям. Сёньня беларусам патрэбна праца, і заробак за яе.

**ДАВЕДКА «НН»:**

Былы дэпутат ВС Алег Трусаў прынес у рэдакцыю «НН» дакумэнт, які сьведчыць пра поўную зьмену поглядаў колішняга дэпутата ВС А.Лукашэнкі, які ў 1991 годзе актыўна выступаў літаральна за ўсё тое, супраць чаго сёньня выступае А.Лукашэнка-прэзыдэнт.

*Рэзалюцыя*

*мітынгу-сустрэчы з народнымі дэпутатамі СССР і БССР на Савецкай плошчы горада Магілёва 1 чэрвеня 1991 году.*

*Прысутнічалі: С.Габрусеў, У.Фаменка, З.Пазьняк, А.Лукашэнка, А.Трусаў, П.Катушкін, а таксама дэпутаты мясцовых Саветаў.*

*Мы, удзельнікі мітынгу, зьвяртаемся да народных дэпутатаў БССР ад Магілёўшчыны з наступнымі патрабаваньнямі:*

*1. Галоўнай умовай пераадоленьня дзяржаўнага крызысу лічыць наданьне Дэклярацыі аб сувэрэнітэце БССР статусу канстытуцыйнага Закону.*

*2. Настойваць на прыняцьці пастановы аб хутчэйшай дэпартызацыі прадпрыемстваў і дзяржаўных установаў.*

*3. Улічваючы бессэнсоўнасьць далейшых эканамічных рэформаў і кадравых перамяшчэньняў пад крылом цяперашняга Вярхоўнага Савету БССР, які не спраўляецца з задачамі кіраваньня рэспублікай, прыняць новы Закон аб выбарах народных дэпутатаў у БССР на шматпартыйнай аснове і, кіруючыся гэтым Законам, правесьці новыя выбары.*

*4. Выступаць супраць падпісаньня саюзнага дагавору да прыняцьця новай Канстытуцыі Беларусі, скліканьня новага Вярхоўнага Савету БССР і рашэньня пытаньня аб кампэнсацыі рэспубліцы і яе жыхарам за ўрон, нанесены Чарнобыльскай катастрофай.*

*5. Патрабаваць ад саюзнага кіраўніцтва вывесьці з тэрыторыі рэспублікі ракетна-ядзерныя ўстаноўкі, аб'явіць Беларусь бязьядзернай зонай.*

*6. Выступаць супраць увядзеньня пасады прэзыдэнта ў рэспубліцы да прыняцьця новай Канстытуцыі і выбараў Вярхоўнага Савету на шматпартыйнай аснове.*

*7. Падтрымаць патрабаваньні народнага дэпутата А.Лукашэнкі аб тэрміновай прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці, у тым ліку зямлі, лічачы гэта асноўнай антыкрызыснай мерай у эканоміцы.*

*8. Настойваць на прыняцьці пастановы аб наданьні Магілеву статусу свабоднай эканамічнай зоны.*

# Жнівень 39-га: фрагмэнты ісьціны

***57 гадоў мінула з таго дня, калі быў заключаны пакт аб ненападзе паміж СССР і Нямеччынай. Па-рознаму ацэньваюць гісторыкі і палітыкі гэты дакумэнт. На думку адных, ён быў непазьбежны для Савецкага Саюзу і быў буйной дыпляматычнай перамогай, іншыя лічаць, што ён адкрыў шлях Гітлеру да сусьветнай вайны, а СССР урэшце не атрымаў ніякіх выгадаў з адтэрмінаваньня нямецкага нападу...***

На навагоднім прыёме дыпляматычнага корпусу ў Бэрліне гасьцей прымаў сам Адольф Гітлер. Згодна з этыкетам, ён па чарзе паціскаў рукі дыпляматам, часам кідаў кароткія рэплікі. Але, калі надышла чарга савецкага паўпрэда А.Меракалава, Гітлер ня толькі затрымаў поціск рукі, але і ўзнагародзіў візаві размовай, якая цягнулася некалькі хвілін.

Трэба згадаць, у якія часы праходзіў гэты прыём. Пачатак новага, 39-га году выдаўся неспакойны. Грамадзянская вайна ў Гішпаніі скончылася — рэспубліканцы яўна пацярпелі паразу. І вось у гэтых абставінах, калі ў Гішпаніі іх суайчыньнікі страляюць адзін у аднаго, рэйхсканцлер Гітлер і паўпрэд Меракалаў амаль па-сяброўску гутараць...

Былы гітлераўскі генэрал Курт Тыпэльскірх у сваёй аб'ёмістай працы па гісторыі Другой сусьветнай вайны, зьвяртаючыся да складаных адносінаў Нямеччыны і СССР, піша, што ў 39-м годзе, «не збліжаючыся з Савецкім Саюзам палітычна, Гітлер імкнуўся перамяніць тон ў адносінах да яго... Расейцы вырашылі парушыць сваю ранейшую стрыманасьць і першыя сталі зандаваць глебу ў Бэрліне, што дазволіла зрабіць выснову пра іх імкненьне да палітычнага ўзаемаразуменьня зь Нямеччынай. Калі Гітлер прыняў гэтыя іхнія спробы вельмі асьцярожна, то заходнія дзяржавы ў канцы сакавіка пачалі перамовы з СССР».

Тыпэльскірх ня быў дыпляматам, ён працаваў у разьведвальным ведамстве, але, трэба меркаваць, мог быць інфармаваны і пра зьнешнепалітычныя справы. Хто першы пачаў, трэба яшчэ праверыць, але кантакты былі — гэта дакладна.

У канцы жніўня 1939-га над сьветам нібы выбухнула бомба: СССР і Нямеччына, якія яшчэ нядаўна ганьбілі адзін аднаго на чым сьвет стаіць, нечакана для ўсіх падпісалі пакт аб ненападзе. Ніхто яшчэ ня ведаў, што да яго дадаецца сакрэтны пратакол, у якім быў зафіксаваны падзел Усходняй Эўропы на сфэры ўплыву паміж Масквой і Бэрлінам. Праз тыдзень Нямеччына ўварвалася ў Польшчу, а праз 17 дзён савецка-польскую мяжу перасекла Чырвоная Армія. Як і прадугледжвалася ў сакрэтных дамовах, Польшча (у склад якой тады ўваходзілі Заходняя Беларусь і Заходняя Ўкраіна) была падзелена паміж СССР і Нямеччынай.

Дагэтуль робяцца спробы патлумачыць гэтую акцыю выключна «клопатам пра бясьпеку нашай краіны», імкненьнем «адсунуць заходнія межы СССР» напярэдадні гітлераўскай агрэсіі, «прыйсьці на дапамогу ўкраінскім і беларускім братам». Тут толькі адна частка праўды.

Другая, зацененая частка ў тым, што «аднаўленьне справядлівасьці» ў адносінах да Ўкраіны і Беларусі (якое адбывалася разам з «тэрытарыяльна-палітычным пераўладкаваньнем») не хвалявала Сталіна... Стаўшы на шлях падзелу здабычы з драпежнікам, Сталін пачаў карыстацца мовай ультыматумаў і пагрозаў з суседнімі, асабліва малымі краінамі. Не палічыў непрыстойным выкарыстаць зброю — так адбылося ў спрэчцы зь Фінляндыяй. У вялікадзяржаўнай манеры зьдзейсьніў вяртаньне ў склад Саюзу Бэсарабіі, «аднавіў» савецкую ўладу ў рэспубліках Прыбалтыкі.

Сёньня скінута покрыва сакрэтнасьці з жнівеньскіх дамоўленасьцяў 1939 году паміж Гітлерам і Сталіным. Разам зь ім разьвеяна вера ў тое, што ўсе крокі даваеннага савецкага кіраўніцтва ў зьнешняй палітыцы дыктаваліся толькі неабходнасьцю бясьпекі краіны. Былі ў іх дзеяньнях і цынічныя разьлікі, і імпэрскія амбіцыі, і пагарда да малых народаў суседніх дзяржаваў.

А пакуль, пачынаючы з восені 1939 году, «цягнік дружбы» паміж дзьвюма дзяржавамі ўжо нёсься на ўсю моц. Крытыка ў адрас Англіі і Францыі, якая упершыню прагучала з вуснаў Сталіна на XVIII зьезьдзе ВКП(б) 10 сакавіка 1939 году, набыла да гэтага часу характар анафэмы. Хлусьня, якую падавалі сваім народам сталінскія і гітлераўскія кіраўнікі, цалкам не ўсьведамлялася. Яны абвясьцілі падпальшчыкамі вайны Англію і Францыю, а сапраўдны агрэсар — фашысцкая Нямеччына — аказалася «ў становішчы дзяржавы, якая імкнецца да міру» і вядзе «справядлівую, абарончую вайну». Больш за тое, новасьпечаныя саюзьнікі нават не пасаромеліся пагразіць Захаду кулаком: «... У выпадку працягу вайны Ўрад Нямеччыны і СССР будуць кансультавацца адзін з адным аб неабходных мерах».

Фюрэр, напэўна, быў у захапленьні. Бо яшчэ 25 жніўня, праз два дні пасьля заключэньня пакту аб ненападзе паміж СССР і Нямеччынай, ён пісаў Мусаліні: «Я ўпэўнены, што магу паведаміць Вам, Дучэ, што дзякуючы перамовам з Савецкай Расеяй у міжнародных адносінах узьнікла зусім новае становішча, якое павінна прынесьці Восі найвялікшы з магчымых выйгрышаў». Чаканьні Гітлера збываліся.

31 кастрычніка на сэсіі Вярхоўнага Савету СССР прагучала сумна вядомая прамова Молатава, у якой ён заявіў: «Ідэалёгію гітлерызму... можна прызнаваць альбо адмаўляць... Кожны чалавек зразумее, што ідэалёгію нельга зьнішчыць сілай... Таму ня толькі бессэнсоўна, але і злачынна весьці такую вайну, як вайна за «зьнішчэньне гітлерызму», якая прыкрываецца фальшывым сьцягам барацьбы за "дэмакратыю"».

У друку цяпер не дапускалася ніводнага закіду супраць нацызму. Фон Шуленбург паведамляў у Бэрлін: «Савецкі ўрад робіць усё магчымае, каб зьмяніць стаўленьне насельніцтва да Нямеччыны. Прэсу нібы падмянілі. Ня толькі спыніліся ўсе выпады супраць Нямеччыны, але і падаваныя цяпер падзеі зьнешняй палітыкі грунтуюцца пераважна на нямецкіх паведамленьнях, а антынямецкая літаратура канфіскуецца з кніжнага продажу і г.д... Савецкі ўрад заўсёды ўмела ўплываў у пажаданым для яго кірунку на сваё насельніцтва і гэтым разам ён таксама не шкадаваў неабходнае прапаганды».

Гэта праўда. Нават Лаўрэнцій Бэрыя ўнёс свой уклад ва ўмацаваньне савецка-нямецкага сяброўства, выдаўшы для ГУЛАГу загад, які забараняў наглядчыкам у турмах і лягерах называць вязьняў «фашыстамі».

Гэта толькі пасьля, у трагічную нядзелю 22 чэрвеня 1941 году, Молатаў будзе граміць «зграю крыважэрных фашысцкіх кіраўнікоў Нямеччыны». А пакуль савецкі прэм'ер па ўказаньне Сталіна не губляў ніводнай магчымасьці расшаркацца перад Гітлерам з прычыны яго чарговых «бліскучых перамог». 9 верасьня 1939 году ён віншуе Бэрлін з тым, што войскі вэрмахту ўварваліся ў Нарвэгію і Данію. Молатаў заяўляе Шуленбургу, што савецкі ўрад з разуменьнем ставіцца да гэтых «захадаў» і жадае Нямеччыне «поўнай перамогі ў яе абарончых мерапрыемтвах». А 17 чэрвеня 1940 году, у дзень, калі пала Францыя, Молатаў выклікае да сябе Шуленбурга і выказвае яму «самыя цёплыя віншаваньні савецкага ўраду з нагоды бліскучага посьпеху ўзброеных сілаў».

23 жніўня 1939 году пакт аб ненападзе быў заключаны; дадатковы пратакол, які стаў сакрэтным, падпісаны. Рыбэнтроп па дарозе дадому даваў інтэрвію ў аэрапорце Кёнігсбэргу: «Фюрэр паслаў мяне ў Маскву. Магчыма, гэта зьявілася нечаканасьцю для многіх у Нямеччыне. Аднак мы, нацыянал-сацыялісты, ведаем, што ўсё, што робіць фюрэр, — слушна. Расею запрашалі ў кальцавы фронт (у антыгітлераўскую кааліцыю). Але фюрэр яшчэ раз спрацаваў маланкава. Ён вырваў Расею з гэтага фронту. Вось вынікі гэтага 24-гадзіннага візыту».

А Гітлер адправіў Мусаліні ліст, дзе падвёў вынік дасягнутага: «Гатовасьць Крамля, якая адкрылася пасьля адхіленьня Літвінава, прыступіць да пераарыентацыі сваіх адносінаў зь Нямеччынай узмацнілася ў апошнія некалькі тыдняў і дала мне магчымасьць пасьля пасьпяховай падрыхтоўкі адправіць свайго міністра замежных справаў у Маскву для заключэньня дамовы...»

Інакш кажучы, Сталін даў Гітлеру ўнікальную магчымасьць, аб якой нямецкі генэралітэт, безумоўна, марыў з пачатку стагодзьдзя: разграміць Францыю, не баючыся ўдару з усходу, а потым, павярнуўшы назад, накінуцца на Расею. Гітлер ацаніў гэта. Нездарма, ставячы Сталіна на адну дошку з сваім неразлучным сябрам Мусаліні, ён з трывогай казаў: «Як і сьмерць Сталіна, сьмерць дучэ можа пагражаць нам небясьпекай».

23 жніўня 1940 году «Праўда» надрукавала перадавы артыкул, дзе, у прыватнасьці, гаварылася: «... наяўнасьць савецка-нямецкага пакту... забясьпечыла Нямеччыне спакойную ўпэўненасьць на Ўсходзе». Такім чынам, Сталін пацьвярджаў, што Гітлер можа быць спакойны за свой усходні вал, адкрыта нацкоўваў яго на Англію. І ў выніку гэтага 22 чэрвеня 1941 г. Савецкі Саюз апынуўся ў палітычнай ізаляцыі.

Адна з малавывучаных у Беларусі — праблема перасяленьня пасьля пакту 1939 году заходніх беларусаў з тэрыторыі Польшчы на тэрыторыю БССР, а таксама перасяленьня асобаў нямецкага і габрайскага паходжаньня з занятай нямецкімі войскамі Польшчы.

Так званае «перасяленьне» ажыцьцяўлялася няпроста. Пра яго жахлівыя эпізоды ў нас вядома мала — усё замазала пачатая неўзабаве вайна. Што гэта было? У адпаведнасьці з пагадненьнем, падпісаным нямецкім і савецкім бокам 16 лістапада 1939 г., у Нямеччыну адпраўлялі немцаў з занятай савецкімі часткамі тэрыторыі Польшчы, а ў СССР — беларускае насельніцтва генэрал-губэрнатарства.

Зь нямецкага боку гэтым займалася каманда, якая складалася пераважна з эсэсаўцаў. На працягу двух месяцаў яна цалкам свабодна дзейнічала на Беларусі ў савецкай зоне акупацыі Польшчы і кантралявала сумесна з адпаведнымі службамі НКВД БССР перасяленьне тысяч асобаў нямецкага паходжаньня.

Большыя складанасьці ўзьніклі з адваротным перасяленьнем (беларусаў, напрыклад, якія зусім ня марылі перабрацца ў СССР). Але самае кепскае чакала шматтысячнае габрайскае насельніцтва гэтых месцаў. Савецкія ўлады, так як і нямецкія, спрабавалі «ўпіхнуць» у эшалёны тысячы габраяў альбо, не паведамляючы другому боку, проста выштурхнуць іх за дэмаркацыйную лінію.

5 сьнежня 1939 году генэрал-палкоўнік Кейтэль паведамляў у нямецкі МЗС: «Высяленьне габраяў на расейскую тэрыторыю праходзіла ня так гладка, як, верагодна, чакалася». Насамрэч практыка была, напрыклад, такая: у ціхім лясным месцы ў раёне Горадні тысяча габраяў была выкінута за савецкую мяжу, за 15 км ад гэтага месца яны зноў вярнуліся да мяжы з афіцэрам НКВД, які хацеў прымусіць немцаў прыняць іх назад.

Зь сьнежня 1939-га — красавіка 1941-га НКВД і гестапа ўступаюць у непасрэдны кантакт, адносіны паміж карнымі апаратамі двух рэжымаў нагадваюць гульню — партнэры садзяцца за стол, гуляюць, і кожны імкнецца падмануць другога.

Перадачу «дабраахвотнікаў» партыямі ажыцьцяўлялі афіцэры НКВД і гестапа на мосьце ў Берасьці-Літоўскім. Успамінае Маргарэт Бубэр-Нойман: «Сьнежань 1939 году. Нас было дваццаць восем мужчын і тры жанчыны... Здавалася, што ўсе ад страху застылі. Мы стаялі і глядзелі на чыгуначны мост у Берасьці-Літоўскім, які разьдзяляў занятую немцамі Польшчу і яе частку, акупаваную расейцамі. Праз мост да нас паволі крочыў вайсковец. Калі ён падыйшоў бліжэй, я разгледзела эсэсаўскую фуражку.

Афіцэр НКВД і эсэсавец павіталіся, прыклаўшы руку да брылька. З вузкай сьветла-брунатнай кайстры афіцэр НКВД выняў сьпіс і стаў называць прозьвішчы. У гэты момант ад нашай групы аддзяліліся трое, кінуліся да энкавэдзіста і сталі штосьці ўзбуджана яму тлумачыць. Каля мяне хтосьці прашаптаў: «Адмаўляюцца пераходзіць мост!»... Натуральна, усіх трох прагналі праз мост...»

Вайна, якая пачалася ў чэрвені 1941 году, падвяла рысу пад гэтым «мірным супрацоўніцтвам». Многіх нямецкіх эмігрантаў, ужо прызначаных да выдачы, не пасьпелі давезьці да Менску з далёкіх лягераў, яны засталіся даседжваць. У тых, каго выдалі, лёс складваўся па-рознаму, наконт гэтага Нямеччына выпрацавала выразныя інструкцыі: тых, супраць каго мелі матэрыял, чакаў канцлягер, «незаплямленыя» накіроўваліся ў вэрмахт, габраяў адназначна дэпартавалі ў гета, а адтуль у лягер зьнішчэньня...

**МНОГАЕ** аб'ядноўвала Гітлера і Сталіна, але найперш тое, што яны абодва ўвасаблялі, — дыктатура. Усе дыктатары вельмі любяць пустасловіць пра «дабрабыт народу», «сьветлую будучыню» і г.д. Пры гэтым ня мае ніякага значэньня тое, як вызначае сутнасьць свайго рэжыму сам тыран. Дыктатура пазаклясавая.

Пры ўсёй сваёй супрацьлегласьці палітычныя рэжымы Гітлера і Сталіна былі шмат у чым падобныя. Іх аб'яднала беспрынцыповасьць, падступнасьць і жорсткасьць (нават у адносінах да сяброў), нястрымнае жаданьне ўлады, поўная нецярпімасьць і прэтэнзіі на валоданьне абсалютнай, ледзьве ня боскай ісьцінай. Вядома, культ асобы Адольфа Гітлера насаджваўся і квітнеў у Нямеччыне ў ня менш грандыёзных маштабах і фанатычнай форме, чым культ Сталіна — у СССР.

Часта даводзіцца чуць, што Сталін зрабіў для краіны больш, чым хто іншы, ператварыўшы яе з аграрнай у магутную індустрыйную дзяржаву. Але тое самае зрабіў у сябе Гітлер, аднаўляючы магутнасьць, якую страціла Нямеччына пасьля Першай сусьветнай вайны. У абедзьвюх краінах нагнятаўся псыхоз шпегаманіі, даносьніцтва, падазронасьці. Гітлераўская фэміда зраднілася са сталінскай — зь яе ОСО, «тройкамі», «двойкамі», зь яе цынізмам і дэспатызмам.

31 жніўня 1939 году Вярхоўны Савет СССР аднагалосна ратыфікаваў савецка-нямецкі пакт аб ненападзе. «Мы перасталі быць ворагамі», — сказаў на сэсіі Молатаў. Пра дадатковы пратакол, безумоўна, не было сказана ні слова.

У гэты ж дзень дамова была ратыфікаваная і ў Бэрліне.

**Ігар Кузьняцоў**

## Сакрэтны дадатковы пратакол



*На здымку: Я.Рыбэнтроп і І.Сталін. Масква, Крэмль, 24 жніўня 1939 г. 5 гадзінаў раніцы. Цырымонія падпісаньня савецка-нямецкага пакту.*

*З выпадку падпісаньня Пакту аб Ненападзе паміж Нямеччынай і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік упаўнаважаныя абодвух Бакоў, якія падпісаліся ніжэй, абмеркавалі ў строга канфідэнцыйных гутарках пытаньне аб разьмежаваньні сфэраў іхняга ўплыву ва Ўсходняй Эўропе. Гэтае абмеркаваньне прывяло да пагадненьня ў наступным:*

*1. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэньняў у абласьцях, якія належаць Прыбалтыйскім дзяржавам (Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Літве), паўночная мяжа Літвы адначасова будзе зьяўляецца рысай, якая падзяляе сфэры ўплыву Нямеччыны і СССР. У сувязі з гэтым зацікаўленасьць Літвы ў раёне Вільні прызнана абодвума Бакамі.*

*2. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэньняў у абласьцях, якія належаць Польскай Дзяржаве, сфэры ўплыву Нямеччыны і СССР будуць разьмежаваныя прыблізна па лініі рэк Нарэва, Віслы і Сана.*

*Пытаньне пра тое, ці пажаданае ва ўзаемных інтарэсах абодвух Бакоў захаваньне незалежнай Польскай дзяржавы, і пра межы такой дзяржавы будзе канчаткова вырашана толькі ў часе будучых палітычных падзеяў.*

*Ва ўсякім выпадку, абодва Ўрады вырашаць гэтае пытаньне шляхом сяброўскай згоды.*

*3. Датычна Паўднёва-Ўсходняй Эўропы Савецкі бок паказаў на сваю зацікаўленасьць у Бэсарабіі. Нямецкі бок ясна заявіў пра поўную палітычную незацікаўленасьць ў гэтых тэрыторыях.*

*4. Дадзены пратакол разглядаецца абодвума Бакамі як строга сакрэтны.*
*Масква, 23 жніўня 1939 г.*

*Паўнамоцны прадстаўнік Ураду СССР: В.Молатаў* — *За Ўрад Нямеччыны: Я.Рыбэнтроп.*

*Тлумачэньне да «Сакрэтнага дадатковага пратаколу» ад 23 жніўня 1939 году*

*У мэтах ўдакладненьня першага абзацу п.2 «Сакрэтнага Дадатковага Пратаколу» ад 23 жніўня 1939 году цяперашнім удакладняецца, што гэты абзац у наступнай канчатковай рэдакцыі, а менавіта:*

*«2. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэньняў у абласьцях, якія належаць Польскай Дзяржаве, мяжа сфэраў інтарэсаў Нямеччыны і СССР будзе прыблізна праходзіць па лініі рэк Піса, Нарэва, Віслы і Сана».*
*Масква, 28 жніўня 1939 году.*

*Упаўнаважаны Ўраду СССР (Молатаў)* — *За Ўрад Нямеччыны (Шуленбург)*

# Джахар і Шаміль

*Размова з Дэні Тэпсам, кіраўніком Кангрэсу Вайнахскай Дыяспары Расейскай Фэдэрацыі, якая аб'ядноўвае чачэнцаў і інгушоў, што жывуць у Расеі*

**— Чаму сымбаль Чачэніі — воўк?**

— Ёсьць такая чачэнская легенда пра ваўка, дакладней, пра ваўчыцу, якая выратавала ўсіх жывых істотаў.

Некалі даўно Бог, які стварыў нашу зямлю, пасяліў на ёй людзей і ўсіх жывёлаў, паглядзеў і ўбачыў, што людзі моцна грашаць, увогуле ўсё ідзе да фатальнага канца. Вельмі яму гэта не спадабалася і ён вырашыў сьвет зьнішчыць. Дзеля гэтага на зямлю быў насланы страшны гураган. Гураган разбураў горы, выдзіраў дрэвы з каранямі, нішчыў чалавечыя сялібы. Людзі пакідалі свае дамы, жывёлы — свае норы, і ўцякалі, але не было куды ўцячы. Яны гінулі і нішто не магло іх выратаваць. Дарослыя і дзеці ў страху і паніцы беглі наперад, падалі і паміралі, бо нідзе ня можна было схавацца ад ветру і ніадкуль не было ратунку. І толькі воўк не ўцякаў, ён стаў і затуліў ад гурагану сваіх ваўчанятаў, каб ім не было халодна. Калі Бог убачыў, што нехта супраціўіцца яму, ён загадаў гурагану дзьмуць яшчэ мацней. Тады воўк мацней упёрся нагамі і працягваў стаяць. Віхура зьдзірала яму скуру з пысы і поўсьць з усяго цела, воўк паміраў, але не паддаваўся. І калі іншыя людзі і жывёлы пабачылі, што ён стаіць, яны перасталі ўцякаць. Яны сталі за плячыма ваўка, бо толькі ён стрымваў вецер. Тады Бог зразумеў, што незалежна ад таго, зь якой сілай ён будзе вынішчаць усё жывое, гэта ня ўдасца, пакуль ёсьць такая жывёла, як воўк. Такая гордая і незалежная. З такой вялізнай воляй да жыцьця, з такой упартасьцю і годнасьцю ў захаваньні сваіх дзяцей. Такая істота вартая выратаваньня і майго спрыяньня — надумаў Бог і сьцішыў гураган... Таму ў нас, у Чачэніі, лічыцца, што воўк — кароль прыроды. Калі ваўку добра на сьвеце, то іншым таксама добра. У Чачэніі ўсе ведаюць гэтую легенду. Яна вельмі актуальная, асабліва цяпер.

**— Вы выкладаеце ва ўнівэрсытэце ў Пецярбургу. А ў Чачэнію езьдзіце?**

— Вядома. Там мае браты, бацька. Там забілі маю маці.

**— Навошта Расеі вайна ў Чачэніі?**

— Як прыклад для іншых рэспублік — няхай пабачаць, што іх чакае, калі паспрабуюць гаварыць пра незалежнасьць. Для таго, каб паказаць сваю сілу. Давесьці, што грамадзкая думка ўвогуле ня ўлічваецца. Ну і яшчэ грошы. Мноства людзей на той вайне робіць капітал. Такім чынам, гэта змаганьне за ўладу і грошы.

Я старшыня ўсёй чачэнскай дыяспары ў Расеі, гэта каля 500 тыс. чалавек, бо палова майго народу жыве ў Расеі. Я ведаю, што Расея не ваюе за цэласнасьць сваёй тэрыторыі. Яе не турбуе, ці застанецца ці не застанецца Чачэнія ў складзе Расейскай Фэдэрацыі. Яна проста хоча вынішчыць нас. Усіх чачэнцаў. І тых, якія жывуць за межамі краіны, таксама. Яны арыштоўваюць нас безь ніякіх падставаў, б'юць і нават забіваюць.

**«КАЛІ НАРАДЖАЮЦЦА ДЗЕЦІ, ТО ЎСІМ ХЛОПЦАМ БАЦЬКІ ДАЮЦЬ ІМЁНЫ ДЖАХАР АБО ШАМІЛЬ. ШАМІЛЬ АБО ДЖАХАР... ЯНЫ НІКОЛІ НАС НЕ ЗАНЯВОЛЯЦЬ. АЛЬБО НАС ЗАБ'ЮЦЬ УСІХ ДА АДНАГО, АЛЬБО МЫ ПЕРАМОЖАМ».**

**— Толькі за тое, што вы чачэнцы?**

— Так, бо людзей дыскрымінуюць паводле крытэрыяў нацыянальнасьці. Я пасылаў лісты ў АБСЭ, у ААН, у Раду Эўропы — і нічога, усе маўчаць. Увогуле гэта ня дзіўна — усе найвялікшыя дзяржавы аплочваюць гэтую вайну, таму можна іх абвінаваціць у саўдзеле ў генацыдзе.

**— Навошта Захаду аплочваць вайну ў Чачэніі?**

— Бо гутарка ідзе пра чарговы падзел сфэраў уплыву. Мы, Захад, забіраем сабе Югаславію, а вы, Расея, можаце сабе вырашаць свае справы на Каўказе так, як палічыце патрэбным. У Грузіі і Абхазіі, у Арменіі, у Карабаху, нас гэта не цікавіць. Гэта зона вашых інтарэсаў.

**— Зноў Ялта, так?**

— Згодны, свайго роду Ялта. Пакуль Расея будзе дзейнічаць так, як гэта выгадна для краінаў Вялікай Сямёркі, то што б яна ні рабіла, ніхто не запратэстуе. Калі ж раптам Расея сваю палітыку зьменіць, то пачнуцца пратэсты, абвінавачаньне ўладаў Расеі ў парушэньні правоў чалавека, скажам, у Чачэніі.

Бо Захаду патрэбная Расея — вялікая, моцная, але не занадта. Як жандар, застрашальнік Эўропы, асабліва Ўсходняй Эўропы. Амэрыка увогуле не хацела б вельмі моцнай і сапраўды аб'яднанай Эўропы, і Расея стварае для яе сытуацыю пэўнай нестабільнасьці. Расея патрэбная таксама як супрацьвага Кітаю і ісламскім дзяржавам. І таму могуць паміраць чачэнцы, можа працягвацца вайна ў Таджыкістане.

**— Што будзе далей?**

— Вайна. Вайна, мэта якой вынішчэньне нашага народу. Праблема толькі ў тым, што яны хацелі гэта зрабіць адным скокам, і не ўдалося. Цяпер чачэнцы маюць шанцы ператрываць і выйграць. Бо нават псыхічна чачэнцы зьмяніліся так моцна, што перамагчы іх будзе неверагодна цяжка. Калі нараджаюцца дзеці, то ўсім хлопцам бацькі даюць імёны Джахар або Шаміль. Шаміль або Джахар. Яны ніколі нас не заняволяць. Альбо нас заб'юць усіх да аднаго, альбо мы пераможам.

Нядаўна адбыўся кангрэс Вайнахскай Дыяспары Расеі, на якім гаварылася, што мы маглі б зрабіць у Расеі больш-менш тое самае, што яны робяць у нас. Але мы не тэрарысты, як яны пераконваюць увесь сьвет.

**— Якая існуе розьніца паміж тэрарызмам і партызанскім боем?**

— Змаганьне з акупантам — гэта не тэрор, а роспач, як апошні аргумэнт, калі ўжо іншых няма.

**— Чаго заслугоўвае Доку Заўгаеў, чалавек, які ў вашым краі мае ўладу, атрыманую ад Расеі?**

— Сьмерці.

*Gazeta Wyborcza*



# Хто яна, амэрыканская міліцыя?

*У зьвязку зь нядаўнім выбухам у Атлянце ўсе замежныя тэлестанцыі, якія вялі рэпартажы зь месца здарэньня, загаварылі пра магчымы ўдзел у арганізацыі гэтага тэрарыстычнага акту сяброў адной з ваенізаваных груповак, якія ў ЗША называюць міліцыяй. Былі паказаныя апранутыя ў палявую ўніформу людзі, што старанна стралялі ды пераадольвалі паласу перашкодаў на ўзор марскіх пехацінцаў ці дэсантнікаў. Дарэчы, пасьля папярэдняга выбуху, у Аклахоме, таксама згадвалася міліцыя. Пра якую міліцыю ідзе гутарка?*

У сваім клясычным значэньні міліцыя – гэта група звычайных узброеных людзей, арганізаваная для самааховы сваёй мясцовасьці. Ці інакш – апалчэньне. Тое, што ў нас паліцыя называецца міліцыяй – папросту перажытак камуністычных часоў. Хоць, як заўважыў адзін мой знаёмы амэрыканскі прафэсар сацыялёгіі, нашым ахоўнікам парадку слова міліцыя якраз і пасуе. Ён растлумачыў, што ў ЗША задача паліцыі – ня толькі лавіць злодзеяў, але й дапамагаць людзям, на чые падаткі яна ўтрымліваецца, у самых розных сытуацыях. «А ў вас гэтыя бамбізы з гумовымі дручкамі і сапраўды міліцыя – проста ўзброеныя людзі. Толькі спытаеш, як куды прайсьці, – адразу дакумэнты патрабуюць», – кажа прафэсар. Хто-хто, а ён добра ведае розьніцу паміж двума словамі. Бо акурат у ЗША міліцыя зьявілася задоўга да паліцыі.

Атрады міліцыі стваралі яшчэ першыя каляністы, што прыяжджалі засяляць Новы Сьвет. Ім даводзілася бараніцца як ад індзейцаў, так і ад бандаў крымінальнікаў. Пазьней тая ж міліцыя ваявала з ангельцамі за незалежнасьць ЗША. Па сутнасьці на базе міліцыі (апалчэнцаў) Джордж Вашынгтон і стварыў сваю армію. Міліцыя заўсёды грала значную ролю ў жыцьці амэрыканцаў, выконваючы функцыі нечага накшталт народнай дружыны. З той розьніцай, што тамтэйшыя дружыньнікі могуць быць узброеныя агнястрэльнай зброяй. Другая папраўка да канстытуцыі ЗША сьцьвярджае права амэрыканцаў ствараць міліцыю, мець і насіць зброю.

Але зь цягам часу, па меры таго, як функцыі аховы парадку ўсё больш і больш пераходзілі да паліцыі ці нацыянальнай гвардыі, зьмяншалася й роля міліцыі. Новае жыцьцё ўдыхнулі ў міліцыю жаўнеры, што вярталіся з вайны ў Віетнаме, якія, падобна нашым «афганцам», зь цяжкасьцю знаходзілі сябе ў мірным жыцьці, дзе іх да таго ж ганілі тыя, хто выступаў супраць гэтай вайны. Многія вэтэраны віетнамскай вайны пачалі аб'ядноўвацца ў клюбы, што ўяўлялі зь сябе атрады накшталт сваіх былых узводаў і далей заставаліся ў кампаніі сваіх баявых таварышаў. Такім чынам, яны паказалі прыклад і заклалі аснову сёньняшнім паравайсковым групоўкам у ЗША, арганізаваным на ўзор сапраўдных вайсковых падразьдзелаў. Нешта накшталт руху скаўтаў, дзе дарослыя дзядзькі могуць адчуць сябе «крутымі хлопцамі». Асаблівую папулярнасьць такія атрады набылі зь зьяўленьнем галівудзкіх баевікоў накшталт «Рэмба», «Камандас» ці «Амэрыканскі Ніндзя». Попыт спарадзіў прапанову, і ў выніку ўзьнік шматмільённы бізнэс вайсковых гульняў для дарослых. Заняткі пачалі праводзіць інструктары зь ліку былых спэцназаўцаў ды «зялёных бэрэтаў». Да гэтага далучыліся дасьведчаныя кампаніі – вытворцы зброі ды іншага вайсковага рыштунку. Нацыянальная Стралковая Асацыяцыя ЗША, што мае моцнае лобі ў Кангрэсе, дамаглася нават, каб урад на дзяржаўныя грошы пачаў праводзіць спаборніцтвы ў стральбе з баявой зброі, у асноўным з традыцыйнай амэрыканскай аўтаматычнай вінтоўкі М-16. Да таго ж зьявілася магчымасьць прадаваць залежалую на складох вайсковую амуніцыю. Паколькі ў ЗША людзі валодаюць вялікімі абшарамі зямлі, месца для вучэньняў хапае. А каб ніхто не перашкаджаў, то на межах уладаньняў выстаўляюць шыльды з надпісам: «Прыватная ўласнасьць. Усялякі, хто ступае на гэтую зямлю, трапляе пад дзеяньне ўстаноўленых Богам законаў». Гэта значыць, што калі парушальніка прыстрэляць, то той сам вінаваты.

Паступова гульнямі ў «вайнушку» пачалі займацца ня толькі «крутыя мужыкі», але й звычайныя амэрыканскія абывацелі. Сваю ролю тут адыграў штогадовы рост злачыннасьці, якую ўладальнікі паравайсковага бізнэсу выкарыстоўвалі для рэклямы сваіх паслугаў. Таму страляць пачалі як маладыя дзяўчаты, так і нямоглыя бабулькі. Не адстаюць ад дарослых і дзеці, якія пачынаюць з пнэўматычнай зброі, пераходзячы паступова на больш сур'ёзную.

Апроч чыста спартовага ці ўтылітарнага інтарэсу амэрыканцаў да зброі існуе так бы мовіць «ідэалягічны» бок. Бо разам з ростам ліку зброі на руках у насельніцтва і павелічэньнем яго ў паравайсковых фармаваньнях актывізавалі сваю дзейнасьць тыя палітычныя колы (звычайна гэта прадстаўнікі левай Дэмакратычнай партыі), што выступаюць за забарону свабоднага продажу зброі. Яны ўжо дамагліся забароны аўтаматычнай зброі для насельніцтва. Так што цяпер амэрыканскія М-16, расейскія «калашнікі» ды ізраільскія «узі» прадаюцца выключна ў паўаўтаматычным варыянце. Натуральна, што ў такіх захадах многія амэрыканцы бачаць абмежаваньне свайго канстытуцыйнага права, гарантаванага другой папраўкай. Пачынаюць гучаць галасы пра тое, што жаданьне раззброіць амэрыканцаў паходзіць з ААН, якая імкнецца паставіць ЗША пад свой кантроль. Асаблівай нялюбасьцю ААН карыстаецца ў кансэрватыўных хрысьціянаў усіх канфэсіяў, якія разглядаюць ААН як праобраз Зьвера –будучага сусьветнага ўраду Антыхрыста, апісанага ў Адкрыцьці Яна Багаслова. Многія зь іх лічаць, што дзеля ўсталяваньня «новага сусьветнага парадку» ўрад ЗША пайшоў на нейкую злавесную змову з ААН, скіраваную супраць незалежнасьці краіны і яе грамадзян, уключаючы магчымы генацыд.

Незалежны кандыдат у прэзыдэнты ЗША на выбарах 1992 г. палкоўнік Джэймс Грыц на падставе трагічных падзеяў у Вака, калі ў выніку спробы раззброіць прадстаўнікоў рэлігійнай сэкты Дэвіда Корэша загінула болей за паўсотні чалавек, называе ўрад ЗША «драпежнікам, накіраваным на зьнішчэньне людзей». У штаце Айдаха ён разам з сваімі паплечнікамі набыў самае бясьпечнае ў ЗША месца, куды не нацэлены ядравыя ракеты, дзе не бывае ўраганаў і тарнада, дзеля заснаваньня калёніі «вольных людзей, што згодныя стаяць за канстытуцыйныя правы свайго бліжняга». Як дасьведчаны вайсковец палкоўнік Грыц сам трэніруе сяброў свайго пасяленьня. Апроч таго, ён падрыхтаваў тысячы амэрыканцаў з усяе краіны, якія прыяжджаюць да яго па досьвед. Ён кажа: «Усе дарагія мне людзі – мая жонка, мая дачка, мая нявестка – усе маюць пры сабе 45-ы калібар, больш за тое, яны маюць 45-ы з двайной руляй. Што можа быць лепшага за 45-ы калібар? Два 45-я калібры! Калі я націскаю курок, у мяне страляюць дзьве рулі. Для таго, каб выжыць, вы павінны прымусіць непрыяцеля спыніць агонь!»

Натуральна, што апроч атрадаў міліцыі, нацэленых на ўласную абарону, існуюць і шматлікія экстрэмісцкія атрады. Іх асноўная ідэалёгія – расізм. Расізм як белы, так і чорны. Сярод белых – гэта нашчадкі колішняга Ку-Клукс-Клану ды фашыстоўцы зь ліку скін-хэдаў (голеных галоваў), а з чорных вылучаецца арганізацыя «Чорныя пантэры». Якраз яны і ствараюць найбольш клопату для ФБР, што спрабуе нэўтралізаваць іх ці, прынамсі, спрагназаваць іхнюю дзейнасьць, засылаючы туды сваіх агентаў.

Азіраючыся на ўсю гісторыю міліцыі ў ЗША, адзначым значную трансфармацыю гэтага чыста амэрыканскага фэномэну. З колішніх атрадаў узброеных фэрмэраў ці местачкоўцаў на чале з шэрыфам, якія дапамагалі ўраду адваёўваць ды асвойваць новыя землі, сёньняшнія міліцыянты пераўтвараюцца ў сур'ёзную апазыцыйную, непадкантрольную дзяржчыноўнікам сілу. Чым больш дзяржава імкнецца іх абмежаваць, тым больш экстрэмісцкімі робяцца многія зь іх.

**Уладзімер Бараніч**

К а л я н д а р

# Сапраўдная Сталіца

Чаму праз безьліч часу, калі наш край ізноў зацікавіць археолягаў, яны ня змогуць адшукаць цікавы помнік — грандыёзную стэлу? Будзе высьветлена, што ад пачатку яна месьцілася на вялікім пагорку, а пасьля апынулася на дне забагненай рачулкі. Словы, высечаныя на стэле, наўрад ці зьдзівяць археолягаў больш, чым сучасьнікаў. «ВЕВЯРЭСК — летапісны горад. Ён узгадваецца ў «Сьпісе гарадоў рускіх далёкіх і блізкіх» у канцы XIV ст. На думку некаторых навукоўцаў, ён стаяў тут, на месцы в. Вавёрка Лідзкага раёну Гарадзенскай вобласьці».

Селішча, якое сучасьнікі назвалі горадам і занесьлі ў адпаведны дакумэнт, ня можа зьнікнуць выпадкова. Вевярэск узгадалі адзін раз — у часе, калі вакол гораду буяла жыцьцё: на поўначы дабудоўваліся Медніцкі й Крэўскі замкі, на поўдні закладаўся Навагрудзкі, а зусім побач, у двух дзясятках вёрстаў, квітнеў замак места Ліды. Але згадка Вевярэска ў гістарычным дакумэнце ёсьць, бадай, нейкай фантастычнай памылкай Часу. Горад мусіў зьнікнуць бясьсьледна...

Вевярэск пакінуў па сабе дзьве рэчы: назву й срэбны праскі грош, які яшчэ знойдуць недалёка ад стэлы. Гэтая манэтка, якая прыйшла ў горад з выпадковым эўрапейскім вандроўнікам, парушыла status quo: яна выкацілася з вацка і легла на мяжы прасторы Вевярэска й астатняга сьвету. Хада падзеяў ссунулася, і тым самым НАКАНАВАНАЕ зьнікненьне скарэктавалася. Зусім крыху, адно каб уратаваць назву. Дзякуючы гэтаму, насуперак лёсу, «Род, прысуджаны на сто гадоў адзіноты», якому праз гэта «не наканавана зьявіцца на зямлі двойчы», працягвае сваё існаваньне. Ён жыве на сваёй зямлі, і спрабуе аднавіць свой Дом. Штораз, калі сьцены амаль збудаваныя, узьнікае сьмерч, які руйнуе плён працы. Але цяпер сьмерч штораз слабне, з таго часу, як 105 гадоў таму Род атрымаў ІМЯ. З тога моманту Род не баіцца расшыфроўкі пэргамэнтаў, у якіх запісаная ягоная гісторыя, бо той, хто мае ІМЯ, ня можа зьнікнуць.

Магчыма, сёньня Род адзінокі, як ніколі, — ён ня можа да канца пазбавіцца адчуваньня ўласнай мітычнасьці. Каб аддаліцца ад мяжы ірэальнасьці, трэба аднавіць Вевярэск, і тады кола разамкнецца. Мы ня ведаем, якім гэты горад быў у сапраўднасьці. Тым лепей — ягонае аблічча залежыць ад нас.

**Севярын Квяткоўскі**

